**П. Родзевіч**



# Сцэнічныя творы.



Выдавецтва Ул. Знамяроўскага.




Друкарня „Друк“. Субач 2. Вільня 1921 г.

век не радзіўся, які-б табе ўгадзіў... (хоча даць з печы ялу).

Саўка. Цыц! ані важся, ані зварухніся, бо зямлю на вушы ўганю. І калі ня біта; дык нега і хліпаць там у нос. Чуеш?!

Магрэта. Во залейцаў, во закелзаў, ані кнуць, ані крануцца. Во, дзе крыўда! Не магу алей трываць! Гіну ўжо, гіну, гіну, гіну...

Саўка. Ціха!..

Магрэта. Вох, вох, вох!

Саўка. Гвалту, гвалту, аглохну, здурэю!.. атыкае вушы).

Магрэта. Ай, яй, яй, яй...

Саўка. (хапае вопратку, ці посьцілку і нарывае Магрэту). Ну, калі хопіць духу, дык крыы, каб цябе маланка рэся-разанка; крычы! Га, а, га!.. Ну, крычы чага-ж анямела? Вось хітра рыдумаў. А мо‘ яна ўжо і скапуцілася? (Адрывае Магрэту, каторая сядзіць на падлозе). Ну, ось уціхамірылася, дык і дзякаваць Богу. Цяер я з табой хачу пагутарыць аб нечым важным. ы вось жальбуеш на сваю долю чубатую, што абе ў хаце вельмі дрэнна, работа заядае, ну ўсё такое.

Магрэта. Горш і быць ня можа. Ліхому орагу ня жычу такой жыткі, каб на яе звод, аб на яе...

Саўка. Тра-та-та-та! Пачалося! Дык-жа алі табе дрэнна, то зробіма, каб было добра. Ты ойдзеш у поле араць, а я дома гаспадарыць. І чалавек згаворчывы. Калі табе тут, у запечку епанадна сядзець, ну дык ідзі паары пасеку, паузай саху, папацей у дваццаць патоў, дазнайся а чым фунт ліха. Годзе вам даўгакудлым лынцы біць. Усю цяжкую работу дык мужчына рабі— айна—мужчына ідзі, як у мясарэзку; мужчына

Л. Родзевіч



# Сцэнічныя творы.



Выдавецтва Ул. Знамяроўскага.




Друкарня „Друк“, Субач 2. Вільня 1921 г.

# Зьбянтэжаны Саўка.

## Жарт у аднэй дзеі.

АСОБЫ:

1 Саўка,
2 Магрэта,
3 Жабрак.

Дэкорацыя: сялянская хата.

### Зьява 1.

Саўка. (ўходзіць). Жонка!
Магрэта. Я.
Саўка. (грамчэй) Магрэта!
Магрэта. (цішэй) Тутачкі яна.
Саўка. (яшчэ грамчэй) Чарвіва качарыжка!
Магрэта. (яшчэ цішэй) Лістком перад табой, пакорна як цялё.

Саўка. Вух, каб цябе маланка, рэся-разанка!.. Ты чаму мне палуднаваць ня прынесла? Іншыя ратаі дык і паснаць ужо здалелі, бо маюць жонак, а ня гэткія, во, рэзгіні гнілыя. Вух, як я злосны!

Магрэта. А доля-ж мая чубатая! Ды я й так ужо стараюся—усё з кута ў кут, то тое,

то сёе, то туды, то сюды, адным словам—ні работа, ні аддуха. Хіба-ж я тут вінавата?!

Саўка. Ціха малатарня! Залапатала ўжо. Каб так рукамі завіхалася, як языком, дык муж не галадамíраваў-бы. І на што ты жывеш? Вось толькі сьвет капціш. Вух!

Магрэта. Ясны дзень, будзь мне сьведкай, дух нябесны, будзь судзьдзёй! Працуеш, гэта, ад зары да зары, як мурашка; б'ешся, як рыба аб лёд, а яму ўсё мала, а ён хоць-бы што, хоць калі...

Саўка. Бачыў Бог працу, ды не даў мазаля. Ніякага спору, прыбытку ў тваіх руках няма. Тпру! ды—но! і ўсё на адным месцы. А я, Саўка, ні за што, ні праз што пакутую, галадую, гібею ў непагоду, лютую там з сахой... Вух, каб цябе маланка, рэся-разанка!

Магрэта. І ня піла-ж я, і ня ела-ж я, памаліцца не здалела, а ўсё аб табе, аб Саўпы сваім думала. І за думкай тэй не здалела ахнуць, як і поўдзень прайшоў...

Саўка. Чакай, ты ў мяне ахнеш, як дабярўся я да твае аўчынкі—ой, скудлочу, ой, злямцую...

Магрэта. (плачучы) Згінь ты, прападам прападзі, жыцьцё гэткае катаржнае! Годзіш яму, як благой скуле, на пальчыках ходзіш перад ім, хухаеш, дзьмухаеш, а ўсё дрэнна, а ўсё ня так. Дам я табе палудняваць, дам я табе есьці, не абгрызай ты толькі маіх костачак; хай будзе ціха, як у вуху, каб людзі не сьмяяліся, сьвет не абгавараваў...

Саўка. Джа! Ані заікніся! Ані не магу я слухаць твае зьвягі, — ось быццам тупым нажом па шкле ёрзаець. Ну і галасок удаўся, як у парасяці, ўшчэмленага ў плоце.

Магрэта. Антыхрыст ты! Яшчэ той чалавек не радзіўся, які-б табе ўгадзіў... (хоча дастаць з печы ялу).

Саўка. Цыц! ані важся, ані зварухніся, бо ў зямлю па вушы ўгапю. І калі ня біта, дык нечага і хліпаць там у нос. Чуеш?!

Магрэта. Во залейцаў, во закелзаў, ані пікнуць, ані крануцца. Во, дзе крыўда! Не магу далей трываць! Гіну ўжо, гіну, гіну, гіну...

Саўка. Ціха!..

Магрэта. Вох, вох, вох!

Саўка. Гвалту, гвалту, аглохну, здурэю!.. (затыкае вушы).

Магрэта. Ай, яй, яй, яй...

Саўка. (хапае вопратку, ці посьцілку і накрывае Магрэту). Ну, калі хопіць духу, дык крычы, каб цябе маланка рэся-разанка, крычы! Га, га, га!.. Ну, крычы чага-ж анямела? Вось хітра прыдумаў. А мо' яна ўжо і скапуцілася? (Адкрывае Магрэту, каторая сядзіць на падлозе). Ну, вось уціхамірылася, дык і дзякаваць Богу. Цяпер я з табой хачу пагутарыць аб нечым важным. Ты вось жальбуеш на сваю долю чубатую, што табе ў хаце вельмі дрэнна, работа заядае, ну і ўсё такое.

Магрэта. Горш і быць ня можа. Ліхому ворагу ня жычу такой жыткі, каб на яе звод, каб на яе...

Саўка. Тра-та-та-та! Пачалося! Дык-жа калі табе дрэнна, то зробіма, каб было добра. Ты пойдзеш у поле араць, а я дома гаспадарыць. Я чалавек згаворчывы. Калі табе тут, у запечку непанадна сядзець, ну дык ідзі паары пасеку, патузай саху, папацей у дваццаць патоў, дазнайся па чым фунт ліха. Годзе вам даўгакудлым лынды біць. Усю цяжкую работу дык мужчына рабі— вайна—мужчына ідзі, як у мясарэзку; мужчына

й сямью кармі, барані, й з цешчай агрызайся, а яны, баб'ё, сядзяць сабе на гатовенькім, кудахтаюць і гэта называецца „доля чубатая“. Ой, абскублю я вам гэту долю, будзе яна лысая, як калена. Дык-жа знай, я хачу быць бабай і канец. Вось як!

Магрэта. (ўстала) Добра саколік, дзякаваць Богу, што ўжо кончыў... Воля твая—прыказ мне. Толькі памятай-кісель хваляць, пакаштаваўшы.

Саўка. Я ня лізун, каштаваць ня люблю, а калі ем, дык усё, да дна. Ну, а ты выносься, нечага выстаўляць тут свой бабскі розум. Я больш забыўся, як ты ведаеш! (выпіхае Магрэту).

Магрэта. (праз дзьверы, а як Саўка прыгразіць—схаваецца і так колькі разоў). Ты-ж глядзі, каб курыца не выляцела з яек, бо яны, як астынуць, дык занішто прападуць. Пасьля сьвіньням травы назьбірай, курэй пашчупай, хлеб расчыні, кароў падоіш, начыньне памыеш, варыва выпелеш, зварыш...

Саўка. (бярэць венік). Ну, а яшчэ што?

Магрэта. Бабскі атопак, курашчуп, памыйнік!..

Саўка. (замахіваецца венікам). Я табе зараз памыю тваю патэльню. Вось ужо дакучлівае стварэньне гэтыя бабы! (адзін; глядзіць праз вакно) Цьфу, ты напасьць! Пашла. Я думаў яна будзе пярэчыць, ажно ад першага слова фырт! хвост у зубы й пайшла зыкуючы. А нагаварыла ў паўтары засекі. (Дражнячы). Курэй падаі, сьвіней пашчупай, начыньне расчыні, хлеб авары й каб варыва не астыла... І яшчэ нейкую трасцу—гаручка яго ўсё успомніць... Эгэ-ж, гэта ўсё-ткі непарадак: яна заўсягды наперакор, а тут раптам.. Часамі, прыкладам, хоча варыць крупнік з малаком, а я, ня любячы малака, папрашу, каб, зна-



чыць, зварыла на сале. Дык яна не! Затопае, залапоча й давай таргавацца. І так цэлы дзень пратакаем, пранекаем і крупнік незвараны, й мы ня еўшы. Ой, нешта тут ёсьць нядобрае! Трымайся, Саўка, каб не спатыкнуцца. Ну, але—такой бяды, мы і самі з вусамі, хіцер Зьміцер, але і Саўка ня дурны. Перш-на-перш папалудняваю, бо есьці хачу, як воўк. (Дастае з печы яду і разварачвае). Маеш табе—насілкаваўся!.. Цк! як смашна пахнець, хоць ты языком ліжы. Ах, каб табе ручкі ў кручкі—страву, дар Божы, марнаваць. Рукі, як кавёлы, вось усадзіў Бог душу, як у пень. Ах, каб цябе маланка, рэся-разанка—кару грыз-бы, так есьці хачу. Трэба пашукаць, паветрыць па сховах-складох Магрэты, а мо' што й перападзе. (Выходзіць у клець і выносіць адтуль кадушку з салам, а на кадушцы—хлеб). Го, го, го! Расьпразевайся. Саўка: во цяпер мы закусім, ды пабалюем, эх закусім. Сала і хлябок—еш колькі душа жадае. А Магрэце скажу, што пацук з чорным катом зьелі, гэ, гэ, гэ!. Ну, давай прыступімся... (жагнаецца, хоча рэзаць хлеб, але яго спыняе голас праз вакно: „Саўка, а Саўка! у тваім варыве парасяты, а гарох гусі латашаць!“)

Саўка. А-яй, парасяты гусей латашаць... (Выбягае. Праз якісь час уходзе Жабрак).

## Зьява II.

Жабрак. Пахвалёны ў хату. Падарэце сьляпенькаму, бедненькаму, старэнькаму дзядочку. Не магу я працаваць, сілачкі ня маю, Бог цемрай пакараў, жыву з ласкі людзей добрых.. (кашляе, стукае палкай, а згледзеўшы сала й хлеб на стале выцягівае шыю, нюхае, цмокае, тупае на месцы). І хочацца, й колецца... Кгы! кгы!,

Нікога ня чуваць... Э, хто адважны, той пан важны... (падходзе на пальчыках, хавае у торбу сала й хлеб). Ой, нехта ідзе! (пацягвае торбу да парога). Ну, цяпер я прапаў, цяпер мне сьмерць! (Моліцца). А слова сталася целам...

## Зьява III.

Саўка (ўходзіць). А што табе, чалавеча, трэба?

Жабрак. Дзень добры!

Саўка. Калі табе трэба „дзень добры", дык ідзі на панадворак і шукай там яго!

Жабрак. Ды не!.. я гэтага... не аб тое... Вось можа ў мяне купіце сала?

Саўка. А мо' ты ў мяне купіш, бо маю багата?

Жабрак. Хі-хі-хі! Ну, дык падайце, калі ласка, й я папхнуся далей. (Саўка падае). Толькі ад сабак правядзеце, а то яны у вас кусьлівыя. (Выходзяць).

## Зьява IV.

Саўка (ўбягае). Ой, есьці, есьці, есьці..! А дзе-ж яно падзелася?! Ні хлеба, ні сала... Кусочка ня ўкусіў, а ўжо ня стала. Гм! І сабакі не брахалі й сала укралі. Што за насланьнё, ці не дамавік тут прыслужыўся? Ці гэта я можа сьніў? (шукае). Стой, брат, ці не маё ён гэта сала прадаваў?! Пэўна ён сьцібрыў! Пастой, я табе палічу костачкі. (Хапае качаргу й выбягае, але хутка варочаецца). Зловіш яго—на сьвятое ніколі! Зловіш вецер у полі, якраз! Ах, каб табе наскрозь прашло, каб ты апундырыўся, жывадзёр, валацуга!.. Ну, чакай, хоць на тым сьвеце, але як сустрэнуся з табой, тады й палічымся. А цяпер есьці хачу, гвалт есьці хачу! (шукае). Каб мне нябесны гаспадар сказаў, што выбраць: галодны рай, ці сытнае пекла, дык я, не разважаючы, ў пекла папёрся-б. І вось, як на ліха, нідзе, нічога, ніякага ня знойдзеш. (Шукаючы разьбівае пасудак). Чорт вас тут панаторківаў—боўтаецеся пад рукамі. Трэба ў печ злазіць, мо' там што абнюхаю. (Лезець у печ, крэкчучы і вылазіць адтуль умазаны ў сажу). Няма! Охо-хо! галодны гаспадар добрага слова ня варт! А усё-ткі выглядае так, што я выменяў з Магрэтай каня на аброць, выйграў, значыць, як той, спэкулянт Заблоцкі, на мыле. Трэба крыху ўпарадкаваць, а то Магрэта скажа, што зрабіў з хаты стадолу. (Зьмятае венікам падлогу, стол, лавы і разважае). Як мая Магрэта, дык мабыць на цэлым ужо сьвеце няма такой бабы, — днём з агнём шукай ня знойдзеш ні сярод жывых, ні сярод памёршых. Да раны яе прылажы, дык рана і загоіцца. Сапраўды, каб была доўгая, доўгая драбіна, дык яна жыўцом-бы на неба палезла. І зрабілася-б яна там духам чыстым, сьвятой Магрэтай... Але як даведаецца гэты дух чысты, што я гэтак хітра сала жпрапасьціў, вось будзе ў хаце вайна. Зьдзярэць яна жыўцом з мяне сала... Во, па зямлі крошкі валяюцца... (Падбірае й есьць) З боку гледзячы, дык можна падумаць, што я з голаду крошкі падбіраю, а я проста-ткі як добры гаспадар, каб не марнавалася... (крык курыцы. Саўка выбегае і крычыць за бакавінамі: Аюсь! Аюсь! А каб цябе маланка й рэся-разанка! Аюсь! Уносіць скрынку з яйкамі). А—бо', сьвіньня чуць не паела! І пагнала-ж яе нялёгкае! Вось трэба вучыцца ад сьвіней: яны ўсягды пасьвінску робяць, а мы дык ніколі палюдзку... А яйкі астынуць, а яйкі прападуць... Пайду лавіць курыцу...

А, каб-яе маланка й рэся-разанка!.. (Выбягае, за-
вець: „Ціпачка, ціп, ціп! Селачка, сел, сел! Курап-
ка, кур, кур!.. Ах, каб цябе, хай цябе каршуновы
аб'едкі, ды ўсё такое!“ Убягае). Ніяк не даецца,
ані ня зымаеш, а Магрэта хай толькі адазьвецца
да яе, як яна прысядзе, гэтак скукярэчыцца, хоць
ты яе, значыць бяры і рэж, а ад мяне на
ўцякае.. Ах, каб цябе маланка й рэся-разанка!
Хіцер Зьміцер, але й Саўка ня дурны: жыў ня бу-
ду, калі не злаўлю. (Надзявае спадніцу). Ашукаю
курыную сьлепату — яна падумае, што Магрэта
дык і скукярэчыцца. Ой, яй, яй, а тут яйкі як
стынуць, дык стынуць. (Выбягае й нахаду за-
вязывае хустку).

## Зьява V.

Магрэта. (Ўходзіць, нясучы ў торбе сала).
Во, нагаспадарыў, пустадомак! Гэта-ж не жар-
цікі, столькі сала ўкралі! А ў хаце што робіцца —
ўсё ўверх дном паставіў. Во бунтаўшчык, во
авантурнік, абрыда, цюхцялей! Ох, дапякла-б я
яму, аж язык сьвярбіць, паказала-б дзе Макар
козы пасе, бяда толькі, што й я недзе кабылу
згубіла. І немач яе ведае, — раптам як папаў зык,
калі паставіць гэта яна хвост дудой ды ў кусты,
чуць сакі не паламала. Ой, будзе мне ад Саўкі!
(Выносіць сала ў клець).

## Зьява VI.

Саўка. (Ўходзіць змучаны, з разарванай
спадніцай). Ох, няма мае сілачкі! Замучыла, каб
яе карпун... зьнямогся, зьнядужэў.. Чуць, чуць
не злавіў, ужо й за хвост зрэпіў — трэба-ж было
зачапіцца, палярушт ле ведае. Во, й спадніцу ра-



не расквасіў. Бег за ёй,
адраў, і нюхаўку чуць не расквасіў. Бег за ёй,
ег, каб цябе маланка й рэся-разанка, ажно бачу,
мая кабыла па аўсе, як шалёная круціцца, быц-
цам сам люцыпар на яе усьсеў... А Магрэты як
няма, дык няма... А яйкі ўсё стынуць, псуюцца,
гінуць... І трасца іх ведае, што з імі рабіць? Ро-
гонівум за розум заходзе ад неспакойства. Я мабыць
звар'яцею, і пасівею, а як прыдзе Магрэта дык
амру, бо яна мяне заб'ець. І чым уціхамірыць
не гнеў Магрэты, й што мне рабіць?.. А яйкі
стынуць, а яйкі псуюцца... І, як я бачу, дык ня-
ма іншага ратунку, як самому на іх сесьці.

Цьфу! да чаго дажыўся: і сьмех, і грэх, і на
плач забірае. (Садзіцца). Каб толькі яешні не
зрабіць... Ну й папаўся я з сваей выдумкай, як
таркан у саладуху, адным словам, майстар з хле-
ба гузікі рабіць. Вух, як я сярдзіты! Адно мяне
толькі усьцяшае, што я радзіўся ня бабай і што
разумнаму чалавеку ніколі не шанцуе, вось з
дурнем, дык заўсёды Бог. Але ад гэтага мне не
лягчэй. Вух, як я сярдзіты! Я цяпер ня толькі
жаночую, але й курыную работу раблю — паскуд-
ная работа! Вух, як я сярдзіты!

## Зьява VII.

Магрэта, (ўходзіць з клеці прыглядаецца
да Саўкі, пазнаць ня можа, жагнае яго, кажучы):
Згінь нячыстая сіла, прападзі. Няўжо гэта ён,
бунтаўшчык?! Саўка, ці гэта ты?

Саўка. Я Магрэтачка, я! Дадушы — я!

Магрэта. Што ты тут робіш?

Саўка. На яйках, жоначка, сяджу, на
яйках.

Магрэта. Цьфу, паскуднік! Не блазьнюк
здаецца гэткімі жартамі займацца!

Саўка, (ўстае). Не да жартаў мне... Вось паглядзі... Каб не застылі, не папсаваліся... Я чалавек гаспадарны...

Магрэта, (з жахам). Ах, ці мне! Сапраўды яйкі... А ён у спадніцы, страшны, як чорт балотны... Стой, не падходзь!

Саўка. Чаму, Магрэтка, клёцачка мая?

Магрэта. Стой, стой! Адыйдзіся! Звар'яцеў! Ня ўсе дома... Ай-яй-яй, не падходзь! (уцекае ад Саўкі). Людцы, ратунку, звар'яцеў, звар'яцеў!..

Саўка. Магрэтка, крупаварніца мая. Няўжо-ж сапраўды я звар'яцеў? А мо' ў цябе мазгі заплюдзіліся, мо' табе кабыла брыкнула ў галаву ды мазгі на затаўку зрабіла?..

Магрэта. Не варушся, дурань, бо крычаць буду. Стой, кажу, стой!

Саўка, (як стаў у невыгаднай, сьмешнай паставе так і затрымаўся). Во арудаець, во закелзала...

Магрэта. Калі ты не звар'яцеў, дык скажы пацеры.

Саўка. Ой, не скажу! Забыўся; ня было выпадку памаліцца.

Магрэта. А колькі табе гадоў?

Саўка. Ой, не скажу! Ня было часу лічыць.

Магрэта. Стой, Стой!.. А як ты завешся?

Саўка. Бедненькі, зьбянтэжаны Саўка.

Магрэта. А памаему—дурны Саўка.

Саўка. Але, але дурны Саўка. Цьфу, на пасьцы!

Магрэта. А як твой бацька завецца?

Саўка. Ой, Баўтрук, Магрэтка, Баўтрук!..

Магрэта. А жонка як?

Саўка. Магрэта. Каб яе маланка і рэся разанка.



Магрэта. Ой, ой! Чакай, стой.

Саўка (пяе).

Ой Магрэта, жонка,
Не рабі ты крыку,
Во і так твой Саўка,
Зьбіўся з панталыку.

Магрэта (пяе).

Зачапы-ж на носе,
Што розум прыходзе
Гэткім, як ты, дурням
Па часе, па шкодзе.

Саўка. Ой, Магрэтка, жонка
Пакінь выварацца,
Дай чмокнемся лепш мы,
Каб з бядой ня знацца.

Магрэта. А біцца ня будзеш?

Саўка. Хай мяне лепш пярун заб'е!

Магрэта. А ці ты ведаеш, што я кабылу згубіла?

Саўка. А ці ты ведаеш, што ў мяне сала прапала?

Магрэта. Ведаю, стручок. Я шукала кабылу па кустох, а напла сала, калі жабрак закладаў яго за абедзьве шчакі. Як цыкнула я на яго, дык ён з перапуду і торбы адрокся, і сала.

Саўка. І я ведаю, мая перапечка, што ты кабылу згубіла—у аўсе яе злавіў і ў хлеў запёр.

(Абое сьмяюцца пасьля прытупаваючы пяюць):

Гопы, цацы, гоп, цуг!
Тра-та-та-та, тройля
Тылюсенькі, тылі!
Тра-та-та-та, тройля.

(Заслона).



# Пасланец.

**Жарт у аднэй дзеі**

(з народнага быту).

**АСОБЫ:**

1 Пасланец,
2 Кухарка,
3 Пан,
4 Лёкай.

(Рэч дзеецца за часаў паншчыны. У дворнай кухні тупае каля печы Кухарка. Уядаюць саба Ускаківаe Пасланец).

## Зьява 1.

Пасланец. Ну і ветлівыя у вас саба ўся псярня, як ёсь, высыпала мяне спатыкаць.

Кухарка. А сам нябось ляцеў, як у чо та з зубоў вырваўся...

Пасланец. Вырваўся, бо сьпяшыў да па з навасьцямі (Аглядае Кухарку—падлабуніваючыся). Дзень добры вам у хату!

Кухарка. Дзень добры...

Пасланец. А ці пан дома?

Кухарка. Дома.



Пасланец (нюхае). Ой, як-жа тут моцна пахне, вось дык пахне! І вось цікава, — хто тут гэткі пах выдае?.. (да Кухаркі). А, гэта ты, красачка, так пахнеш!.. Але—ты, ты... Дзіва! Жывы вазончык! Адшчыкну я сабе флянсік ды завяду ў сваёй хаце такі пах, што не адзін дурань пазайздруе. Канечна ўшчыкну (шчыпецъ Кухарку).

Кухарка (строга). Ну, чаго трэба?!

Пасланец. Ой, шмат мне што трэба. Торбу грошай, стог табакі, возера гарэлкі і закусіць — вунь тымі катлеткамі, што падрумяніліся, як твае шчочкі,—а твае шчочкі пацалаваць (хоча пацалаваць).

Кухарка (торкае яму хвігу). На, вось, цалуй!

Пасланец (б'ець па хвізе). Вось; табе—пацалаваў! Дай яшчэ пацалую... Чакай, вось, я зараз вазьму сваю палку і заганю цябе, дзе чартапалох расьце.

Кухарка. Гвалт! Ратуйце, разбойнік... Гвалту!

## Зьява II.

Лёкай (уваходзе). Ціха, чаго табе не хапае, асіна ты дупляватая!

Пасланец. Не, мой поўпанок, — яна баба—мёд.

Лёкай. Як поўпанок?

Пасланец. Але, поўпанок. Пан усё зьесьць з паўміска, а лёкаю астанецца толькі вылізаць; вось і выходзе, што поўпанок.

Лёкай. Каму поўпанок, а табе, хаме, пан,— разумееш?

Пасланец (да Кухаркі). А ты, ягадка, ра-

вумееш? Вось гэта то мне зразумела, што як ця-
бе не называй,—ты усё-ткі саладзей за мёд...

Лёкай. А ты хто такі?

Пасланец. Пасланец!

Лёкай. А скуль ты?

Пасланец. З курнай хаты.

Лёкай. Дурань ты!

Пасланец. Дзеля таго-ж мяне і пасла-
лі,—кажуць: дурань з дурнем лепш разгаворацца.

Лёкай. А хто ты?

Пасланец. Я... сын бацькі і маткі.

Лёкай. Ты мне кажы толкам.

Пасланец. Вось гэта і ёсьць толк,
толькі чэрці родзяцца бяз бацькі і маці.

Лёкай. Ну, а хто цябе паслаў?

Пасланец. Мяне паслала пані з Халас-
вічаў. Ведаеце, пэўне, другі панскі двор.

Лёкай. Ну!..

Пасланец (аглядаецца).

Кухарка. Чаго ён круціцца, аглядаецца
як баран з матылямі.

Пасланец. Ды я, бачыш, гляджу, ці н-
стаіць тут дзе якая жывёліна, што гэты поўпан-
усё вукае. (Лёкай, сплюнуўшы, выходзе). Чака-
це, дык вы скажэце там пану, што я прынёс вель-
це, ... Так і скажэце пану: вельмі ва-
важныя навіны. Чакайце, чакайце на мінутку! (у-
ныя навіны.
рае нос Лёкаю рукавом).

Лёкай. Вон, ашалеў ці што!?

Кухарка. Ведама, шалёны, узьвей-вецер.

Пасланец. А ты, ягадка, ня ківай дар-
языком, а лепш паглядзі, на ягоны нос, як б-
шчыць. Язык, бачыш, кароткі, дык ён—носам.

Лёкай. Хам, лапацы! Ды я цябе з зямлё
зьмяшаю!

Пасланец. Ой, ой ня біся! (ўцякае).



Голас пана. Гэй, Сабасцьян! Ах, лотра...
(Лёкай мігам выбягае, Пасланец сядзіць пануры).

Кухарка. Прыціх, дзякаваць Богу (маў-
чанка). Язык, пэўне, зьеў. Ха-ха... Ну, ці смашны
язык... Га? ха-ха... Ты мусіць ці дурны, ці пьяны.

Пасланец (пяе).

Ты ня думай, што я пьяны.
Пасланец я паслухняны,
Сваей паняй я пасланы,
Але маю свае пляны!
Але маю свае пляны!

Кухарка (пяе).

Я кухарка маладая
Пан дае мне хлеба, солі.
Я дзяўчына не такая,
Каб кахацца.. Цьфу! Ніколі!

Пасланец

Твая ласка мне патрэба,
Як ком масла к лусьце хлеба—
Як прыляшчыш ваўчанятка
Дык не страшна й яго матка.

Пасланец. Ой, мне страшна! Паўпанак
хацеў біць, а пан—дык у магілу ўгоне. Ну, але
Бог бацька! (Лёкай адчыняе дзьверы—ўбягае Пан).

## Зьява III.

Пан. Што за навіны?.. Дзе ён? Што пані
прыслала? Якіе навіны? Хутка,—ну чаго маўчыш?
(Пасланец вінавата глядзіць на Лёкая:— той вы-
ходзе).

Пасланец (прыпамінаючы). Ось бяда зда-
рылася, а-я-я!...

Пан. Якая бяда?.. Кажы! Што, можа пані
ахварэла?

Пасланец. Ды вось лёкай, гэтая боўдзі-

ла, хацеў ударыць мяне, а я з перапуду ўсёсенькі забыўся... Вось бяда, а такіе-ж важные навіны.

Пан (крычыць праз вакно) Тамаш, Тамаш, скажы хурману, каб усыпаў лёкаю розаг (да Пасланца). Ну, і што мне цяпер з табой рабіць, калода ты нямая, корч трухлявы! І важныя навіны

Пасланец. Такіх навін ня было і ня будзе, як сьвет сьветам.

Кухарка. Але, панок, ён казаў лёкаю, што вельмі важные.

Пасланец. Чакайце, пачну я з пачатку-мо' ўспомню. Увайшоў, значыць, пасьля шапку зьняў... вось так, пасля, цыт! вось зараз, зара успомню. Што-ж далей?. Ага, пацалаваў кухарку (Кухарка бароніцца, але, пад пагрозай пана падстаўляе адну і другую шчаку). Пасьля ян мяне ў руку цмокнула, бо я ёй дзядзькам пры ходжуся... (Кухарка плюе і сплювае). Пасьля ян пачаставала мяне катлеткай (бярэ ды есьць). О ой, гарачая!..

Пан. Ну, ты хутчэй успамінай, а то я таб дам на розум!

Пасланец. Хі-і!.. Вось яно што!.. Успомніў.

Пан. Ну, што там?

Пасланец. А нічога, ўзяў сабе ды ўспомніў.

Пан. Эх, як бачна, то акопам мала цыб шліфуе, ой мала!..

Пасланец. Паночак, кожны дзень стаі з гарапнікам пад каркам ды ячшэ воз розаг пр запасе дзяржыць за хвальваркам, каб ён д ў пекле не вашоў...

Пан. Ну, годзі,—кажы, якіе навіны, што там у пані чуваць?

Пасланец. А нічога, ўсе добра, панок!

Пан. Як гэта? А на добрым што?

Пасланец. Ды вось, акопам сказаў мне



анскі ножык-складанчык зламаўся. Аздобны быў ножык, бы малюнак той.

Пан. Ат, глупства гародзіш!..

Пасланец. О го, як жа можна казаць, што глупства? То-ж ён зламаўся, ня лежачы ў кішані, а зьнімаючы скуру з выжла, — хацелі, значыць, на боты пану. Ось той выжал, што пан праганддяваў з маршалкам на трох падданых... Памятае пан?

Пан. Ну, добра памятаю.

Пасланец. Я мяркую, што пану і гэта памяці, што выжал быў вялікі абжора. Дык усе пакутуюць за свае грахі, навет і жывёліна. Як б'еўся мяса жарабка, дык, бядак, і ногі выпруціў.

Пан. Як, дык і жарабок здох?

Пасланец. А здох, вось як і ня было, а такі быў удалы, не аднаму хурману зубы выбіў. Пястун, цацачка, але ўжо цераз меру далікатны,—як запраглі да работы, дык і ня выдзеркаў—падарваўся.

Пан. А, такі конік! Ну, і парадкі ў вас там: таеннага жарабка да работы ўжываць. Ой, горана вам будзе за яго, папомніце!

Пасланец. Мой, панок, як-жа было не запрагчы? Ваду цягалі ўвесь двор у вагні, якжа было не запрагчы?!

Пан. Ці пры сваім ты розуме? Што ты кажаш—двор згарэў?

Пасланец. Згарэў, паночак, як сьвечка,—чыста, гладка, хоць рэпу сей, бы языком хто зьлізаў.

Пан. Ой, Матка Боская, прапаў-жа я цяпер! Такі двор, такое гнязьдзечка! І ад чаго ён згарэў?? Ці хто падпаліў, ці выгадаўё, комінаў я чысьцілі, з папяросамі хадзілі?..

Пасланец. Не, паночак, ад сьвечак.

Пан. Якіх сьвечак?

Пасланец. Ведама, заўжды сьвечкі паляць, як хто памрэ.

Пан. Дык памёр хто? Кажы ты, лотра, хут чэй, бо я табе язык вырву!

Пасланец. Вечны пакой, каб ей на тым сьвеце лёгка ікнулася,—пані памёрла! (Пан глядзіць на пасланца, дзіка вытарашчыўшы вочы) Але памёрла. (Пан ходзе па сцэне, охаючы, схапіўшыся за галаву).

Пасланец. Паночак, ня тужы, не гаруй,— не адно-ж ліхо на сьвеце,—даў Бог і пану пры бытак.

Пан. Ой, ратуй, усьцеш! Які прыбытак, а чым ты хочаш казаць?..

Пасланец. Я пану ціхенька, каб ніхт ня чуў... Панская дачка радзіла блізьнюкоў. Але-ж і гожые хлапчукі! Ось рыхт-рыхтык, быццам вы літы панскі хурман Гаўрыла.

Пан. Гвалту, ён забіў мяне!.. Доктара, док тара!.. (Выбягае, пасланец рагоча).

## Зьява IV.

Кухарка. А-а! Што-ж гэта цябе гэтак ус цешыла?

Пасланец. Сьмех сьмехам, але трэба ч хацца і да хаты, бо пан, як апамятаецца, то б дзе мне тое, што і лёкаю (хоча выйсьці, але к харка трымае яго за рукаў.)

Кухарка Не, саколік, ня пушчу! Вельмі ты ўжо салодка цалуеш... Ня пушчу!.. Пасядз аддыхні.

Пасланец. Ось наказаньне, Боскае! Доб кажуць: лепш з разумным згубіць, як з дурне найсьці.



Кухарка. Пацалуй, прыгарніся,-ты такі прыемны, і вусначкі аж гараць. (Пасланец сьмяецца). Чаго ты ўсё рагочаш?

Пасланец. Ды ня толькі я, а пані і пан будуць сьмяяцца, і ўвесь двор бакі надарвець. Сягоньня, бачыш, першага красавіка, дык пані кажа: Ідзі пану нахлусі, што ў галаву набрыдзе. Толькі, кажа, ня баўся,—на аднэй назе ляці назад... Ха-ха! Ну, але трэба чухацца (хоча ісьці, але кухарка трымае). Ну, пусьці ты, ці чуеш?— чапілася, як пьяўка.

Кухарка. Не, не, мой міленькі, салодзенькі, вясёленькі, даражэнькі!..

Пасланец. Ох, каб-жа гэта ведаў, дзе аваліішся, дык-бы сеў. Ну, добра ўжо, добра ацалую і усё такое.

Толькі ты павінна мяне пачаставаць (пяе):

Скрыпіць кола без падмазкі;
Ня йдзе посная капуста.
Не памогуць просьбы, ласкі—
Трэба мазаць тлуста, густа.

Кухарка. Добра саколік, добра... Вось аіш, ўсе дам... І вяндлінкі, і сырчык, і яечка, піражок..

Пасланец. Ах, каб ты роду племені свайго е знала, як ты мяне нявoліш. Каб ты спухла, к нітка... (Што Кухарка прыносіць—хаваючыся д яе кладзе у кяшэні). Ну чаго узіраешся, зьеў ўжо... Падавай! Круцей хадзі.

Кухарка. Зараз, міленькі, я табе дастану ажонку.

Пасланец. Болей цягні, нешкадуючы... Ух ты надакучыла мне і тым людцам, што на нас іраюцца. (выскаківае праз вакно).

### Зьява V.

Кухарка. (нясе рондаль на стол). Вос цёпленькае, смашненькае... А дзе-ж ён?! (Шука глядзіць праз вакно). Уцёк! Вун дзе—толькі пя кі мітусяцць... (кныхкае). Ну, недарую-ж я табе скажу пану што нахлусіў, што ашуканец (выходзе).

(Заслона).

---



# Конскі партрэт.

## Жарт у аднэй дзеі.

АСОБЫ:

Маладзіца.
Гаспадар.
Гаронім Цырубулка.

(Сялянская хата днём. Маладзіца перагнуўшыся праз вакно).

### Зьява I.

Маладзіца. Вось мінае ўжо Курашчупа, а там дзьве хаты і будзе Варапьян. Паўзі ты хутчэй, ідзе на балёўку, а ногі чуць валоча, як вол у баразьне. Во, дзякаваць Богу, ўваліўся ўжо ў хату, а там яму капут—дзень і ноч ня выбярэцца, ўтопіцца ў гарэлцы, каўбасы яго спутаюць... (Зачыніўшы вакно) Муж пашоў на ўпоўзіны, а я сабе зраблю банкет на ўвесь сьвет. Прыдзе мой цацаненькі Гаронім Цырубулка, вось я яму і зраблю прывітаньне надзіва! Пастаўлю настойку моцную, смашную, прыгатую закуску... Што-ж тут прыдумаць? А ўсяго настаўлю, дзякаваць Богу хапае і хлеба і дахлеба (пры-

гатаўляе, часта кідае работу, ўзіраецца ў люстэрка, што вісіць на сьцяне і ўсё жуець і гаворa). Няма лепшага жыцьця як замужняй жанчыне. Перш-наперш, ня трэба ўжо сушыць мазгі аб тым, каб хацця хутчэй выйсьці замуж, пасьля ня трэба прыкідацца добрай, прыгожай, спраўнай работніцай, а калі якая бяда ці грэх здарыцца, дык ужо дзеліцца з мужам. Адным словам — ня жывеш, а ў карэце едзеш! А людзі брахалі, што я ніколі замуж ня выйду. І ня вышла б, каб не зрабіў цуду Мікалай Цудатворца—выпрасіла ў яго.. Я ўжо задок цяляціны афяровала, трэба будзе яшчэ са дзьве аўчынкі занесьці. (гледзячы ў люстэрка) І ты—замуж вышла! Ха-ха-ха... Ці ня со гэта?! Ах, як мне весела, шчокатна! Навет і люібоўніка маю, каторы завецца Гаронім Цырубулка, ха-ха-ха... Як-бы гэта дазнацца праўды?.. (ўбягае, айкаючы Гаспадар).

## Зьява II.

Гаспадар. Ай-яй-яй. (пакруціўся п хаце, чуць не паваліўся, зачапіўшыся за ўслон і выбег. Маладзіца хавае прысмакі)

Гаспадар (убягае). Няма мне куточк шчэлінкі на гэтым сьвеце, дзе-б я мог схавацц затачыцца ад сваіго сораму, зьдзеку, паняверк Быццам, я на сьмех людзям радзіўся. Брэшуц на мяне, торкаюць пальцамі на кожным крок дзе-бы я ня быў: на кірмашы, на сенакосе, ў ўпоўзінах—усюды з мяне вышчараюць зубы, я з падзёртага каптана. Цьфу! Надойчы, кабыл сваю вяду ў ваглоблі, а яна ўпёрлася чацьвярэнкамі і—ані з месца. Зіркачы выказеліла, хвасто



круце, лупамі пляскае і тая,—каб цябе апундырыла,—кепікі з мяне ўжо строіць. А ты можа думаеш, што калі падноска адстала ў маім боце, дык гэта значыць—ён падраўся? Не,—ён не падраўся, ён сьмяецца з мяне як і ўсе—і жывыя і мёртвыя, і чужыя, і сваякі—ўсе рагочуць, каб іх сардэчны сьмех зглуміў, усе паругаюцца, каб ім языкі патрухнелі! (тупае нагамі) Гвалт, ня вытрываю! Гвалт, ратуйце!

Маладзіца. Ціха, супакойся! Што з табой ці не шалёны сабака цябе ўкусіў?

Гаспадар (чыркаючыя). Шалёныя людзі ўкусілі. А калі і шалёны сабака... дык што далей? Што далей, пытаю?

Маладзіца. Чакай—не далей, а пачнем спачатку. Ці Вадапьян пабудаваў сабе новую хату?

Гаспадар. Пабудаваў.

Маладзіца. А ці ён цябе на ўпоўзіны прасіў?

Гаспадар. І'м! Прасіў.

Маладзіца. Што ты там быў, дык гэта я ведаю, але чаму так хутка вярнуўся, дык не згадаю.

Гаспадар (ядавіта). Што гэта, патвоему, на упоўзінах трэба век векаваці? Што гэта, патвоему, калі кажуць, што ў цябе ня жонка, а конскі партрэт, разумееш ты,—конскі парт-рэт,—дык гэта трэба слухаць ды аблізавацца? Га, чуеш? Кажы? Ух, так і просіць кулака. Лепш уцячы, каб не зграшыць. Уцячы на той сьвет, каб ня відзець, ня чуць... (выбягае)

## Зьява III.

Маладзіца. Як сто нячысьцікаў на яго ўсьсела. Лётае, як пацук на гарачай пліце, як са

шпількамі у пятах. Пад ногі не глядзіць, носіцца бяз памяці, яшчэ, чаго добрага, з размаху ў студню ўскоча. Пайду пасачу за ім (у парозе спатыкаецца з Гаспадарам. Абодва айкаюць, хваціўшыся за пабітыя месцы).

## Зьява IV.

Гаспадар. Люцыпар цябе падкруціў.

Маладзіца. Хай на цябе безгалоўе — лоб у цябе камены ці што? Аж іскры пасыпаліся.

Гаспадар. І вышаў гэта я толькі на вуліцу, каб ужо ляцець, куды вочы вядуць, куды ногі нясуць, ажно адкуль не вазьміся тыц! з-за вугла галапуп і давай крычаць на ўсю вёску: конскі пальтлет, конскі пальтлет! Ну і што мне рабіць, як мне жыць? Ох, каб была дзе такая фабрыка, дзе-б ёй можна было-б зрабіць рэмонт, апошняе кашулі не пашкадаваў-бы, аддаў-бы гэтую мардасіну, гэты сіняк мае душы..

Маладзіца. З кім ты там гутарку вядзеш

Гаспадар (злосна). Есьці давай!

Маладзіца. Вось табе маеш, быў на ўпоўзінах і есьці яму давай.

Гаспадар. Есьці,—кажу,—давай!

Маладзіца. Нічога ласага няма.

Гаспадар. А Божанька мой!.. (крычыць). Есьць давай!

Маладзіца. Або-о, гэта-ж ужо сонца на паўдні палуднаваць пара. Ты толькі ня думай, што я спужалася твойго крыку. Прышла пара, дык я і даю. На, во, сёрбай капусту.

Гаспадар (розважаючы сам з сабой). Так я і зраблю. Перш схаджу да шаптуна, мо' ён паратуе і дасьць якой палітуры, ці азд



бы, каб яе крыху ахарошыць, а калі не, дык ноччу вазьму ды прыкончу...

Маладзіца. Годзі там ужо спавядацца, хадзі палудняваць, а то я ўсё зьем.

Гаспадар. Чаго яна да мяне прыстае і хто яе прасіў гэту ежу даваць.

Маладзіца. Як, хто прасіў? Ці пры сваім ты розуме?

Гаспадар. Ты, конскі партрэт!

Маладзіца (бярэ міску са стала). Гэта ня жыцьцё, а круцёлка якаясь.

Гаспадар. (Адбірае міску і абое ядуць). Нябось, сама, пэўна ўжо, ўсе дзялянкі паела.

Маладзіца. Дурны поп цябе хрысьціў, вось што!

Гаспадар. Ды не цяпкай ты губамі, а то ўсе сьвіньні пазьбягаюцца. Ціха, ня сёрбай, а то мяне зараз уцягнеш... (неданосе лыжкі да губ, прыглядаецца да жонкі, кідае лыжку і адварачаваецца). Ох, не магу, мутарна, нудзіць мяне...

Маладзіца. Што таракана ў капусьце знашоў? (шукае ў місцы). Дзе? няма?

Гаспадар. Не таракан, а ты мяне нудзіш, як гнілое яйка, нудзіш. Вось завесіла-б сваю яндоўку якім рызмоном, каб вачэй людзкіх не псаваць. Ох, хай-бы я лепш галаву сабе скруціў, чымся меў з табой жаніцца хай-бы лепш замест цябе радзіўся які чорт хвастаты, пан пузаты. Хай на цябе звод, конскі партрэт.

Маладзіца. А брашы сабе—мне хоць-бы што. Брашы сабе, калі ў цябе такая лапатлівая натура (сядае на лаву, ўнос напявае, калыша нагамі і чэша валасы).

Гаспадар (закляпочаны кал

дзьвярэй). Гм... і рабі што хочаш. Трэба, нагвалт, выйсьці на двор і няма як. Проста, хоць згінь. Выйдзеш, а тут табе з-за вугла галапуп і выскеліцца: „конскі пальтлет!"

Маладзіца. А чаго цябе на двор панясе?

Гаспадар. Ось,—паляруш яе ведае,—пытае, чаго людзі на двор ходзяць ды ўсё такое.... Ой як-жа мне быць! Страшна! (вытыкае галаву ў дзьверы).

Маладзіца (пужаючы). Грр... вазьмеце яго. Ха-ха-ха...

Гаспадар (перапужаны зачыняе дзьверы). Дурніца ты, вось і ўсё. Пудзяла старое, ў каноплі цябе паставіць. Я з табой сьвіней ня пасьвіў, няма што са мной панібратацца. Вун хоць бы грыўку сваю асмаліла, а то і сапраўды да конскага патрэту падобна.

Маладзіца. Ціха... ці ты чуеш? Нехта гвалту крычыць.

Гаспадар. Дзе гвалту крычыць? (прыслухоўваюцца).

Маладзіца. Во, хадзі сюды, як-бы пад сталом і, разам з тым, як-бы далёка, далёка. Бліжэй падыйдзі. А што,—ці чуеш?

Гаспадар. А хай-бы цябе немач, хай-бы цябе разарвала на макавыя часткі. У носе яе сьвішча, а ёй выдаецца нейкая чартаўшчына. Выгадавала нос на кукальбаку, вось вецер у ім і гуляе, як па коміне ды пасьвіставае.

Маладзіца (углядаецца ў люстэрка). Ха-ха-ха, чаго ён прычапіўся да майго носа... Ну хай крыху павелік, а так акуратны, як точаны... Ат, калі благі добрага ня любіць.

Гаспадар. Чорт мусіць сто гадоў думаў, куль выдумаў гэтае добро. Хоць ты бяры ў трэсачкі й выкідай гэтае добро вон. Кара Божая, кара...

Маладзіца. Ох, і мне трудненька, марнееш, як той сыр у масьле, ха-ха-ха!

Гаспадар. Ну далей ужо не магу трываць. Дагэтуль жыў, але больш, выбачайце, не магу. Ось лягу і буду паміраць... Не хапае сіл цярпець гэткую пакуту. Годзі! Ох, душна мне, душна... А тут яшчэ каля шыі цісьне... не магу жычкі разьвязаць... душна! Дай мне нож!

Маладзіца (перапужаная) а Божухна, нашто яму нож. Кінь благую думку.

Гаспадар. Дай мне нож!!

Маладзіца. Родненькі, даражэнькі, апамятайся, пашкадуй душу. Страшна...

Гаспадар. Дай нож!

Маладзіца. Ня губі жыцьця. Грэх! Людцы, ратуйце!

Гаспадар. (разрывае каўнер) На табе, асталопіна. Казаў—дай нож.. Шый, на другі раз, шырэй каўняры.

Маладзіца (Сплювае тры разы). Ото-ж напужаў, думала самагубствам кончыць.

Гаспадар. (ідзе ў кут) Вось памалюся да абразоў сьвятых, вазьму грамнічку і тады пamру, канешна памру. І як гэта я да гэтай думкі перш не дагадаўся. Пякельныя мукі, страшнае насланьне... О, сьвяты Баболя, ты што... (з жахам) А гэта што? Ты! Глянь! На што панавешавала конскія партрэты. Што гэта—мне да х маліцца?

Маладзіца. Дзе? тут нічога няма. Абразы толькі.

Гаспадар. (Сядае за стол і галосіць на ўсю хату). Праўда абразы! Пра-

паў я, звар'яцеў! Нячысьцік розум пакаламуціў. Жонка жыцьцё атруціла.

Маладзіца. Ну чаго ж ты плачаш, пястунчык мой? Ну супакойся...

Гаспадар. (плаксіва) Чаго? А што калі, ратуй Божа, ды ты пажывеш яшчэ колькі гадоў і я з табой разам ды калі, ратуй Божа, ды ў нас будуць дзеці, я ад гэтага не ўсьцеражэшся. А гэтыя дзеці, ратуй Божа, пойдуць па табе, а калі, ратуй Божа, ды ў гэтых дзяцей будуць яшчэ гэткія дзеці, дык усе людзі будуць ня людзі, а конскія партрэты (уздрыгваецца) Ух, як скажу гэтае паскуднае слова, дык, як-бы мяне чэрці на гарачыя вілы ўздымаюць. Апаганіў я сваю хату, ўзяўшы цябе за жонку. Нюхаўка, як дуга, зіркачы як у крата, лоб як патэльня, а губы і нос—цэлы воз, адным словам ня твар, а торба, лапаць... А грыўка: Ну, сапраўдны конскі партрэт. Цьфу!

Маладзіца. Кончыў ужо?

Гаспадар. Дзе там кончыў! Валовай скуры ня хопіць апісаць тваю красу. Ну, але хай будзе—кончыў.

Маладзіца. Ну, дык-жа слухай. У мяне ёсьць любоўнік і я з ім пабяруся, а з табой--развод. І слухаць не хачу--развод, развод...

Гаспадар. (ашаламучаны) Выбачай, я крыху не дачуў...

Маладзіца. Развод, развод.

Гаспадар. Гэта добра, я чую, але ты скажы першае. Недачуў я нешта.

Маладзіца. У мяне ёсьць любоўнік і я з ім пабяруся.

Гаспадар. Каб ты толькі жыла. У яе любоўнік, ха-ха-ха... Яшчэ гэткі дурань не радзіўся.



Ой не кажы ты больш гэтага глупства, бо ўсе куры са сьмеху паздыхаюць.

Маладзіца. Развод, развод, развод.

Гаспадар. А хто-ж ён, твой гэты любоўнік?

Маладзіца. Гаронім Цырубулка.

Гаспадар. Гм... то мо' і сапраўды ты кажаш?

Маладзіца. Як прыдзе сюды тады паверыш.

Гаспадар. Сюды? Чаго-ж ён прыдзе?

Маладзіца. Ха-ха-ха. А чаго-ж любоўнікі ходзяць?

Гаспадар. Во ліха, дык яно да праўды падобна (трасе кулаком). А яны гады казалі: сьпі спакойна--на тваю жонку ніхто не паквапіцца, не пагаліцца. А скажы ты мне, што ён у цябе ўпадабаў?

Маладзіца. Во, кажа люблю твае ножкі. Дадушы казаў.

Гаспадар. Ну ужо ўпадабаў крывашлапую. А ну, прайдзіся, паўзіраемся.

Маладзіца. Ну што-ж і прайдуся (праходзе).

Гаспадар. А нічога сабе, нічога... Хваліць вельмі няма чаго, але і ганьбаваць нельга.

Маладзіца. (задаволеная) А каб ты ведаў, як пачне цалаваць, дык прысмокчацца як пьяўка, а пасьля давай кусацца. Тут, паглядзі, каля шыі, пэўна, знак ёсьць.

Гаспадар. Бач яго, падлюга. Знак ёсьць. Ды і ня дзіва, што кусаэ, шыйка белая, як сыр, а ён-жа, гад, заўсёгды галодзен як воўк!

Маладзіца. Не мані! Ён у мяне так насілкуецца, што заўсягды кажа: наеўся, напіўся і хвосьцік завіўся. А як-жа любіць мяне абнімаць; ты, кажа, пружыніста і цьвёрда, як малатамі выкута.

Гаспадар. Няўжо праўда? (прабуе).

Маладзіца. Стой ня шчыпіся—баліць.

Гаспадар. Праўду ён кажа. Ну а што болей

Маладзіца. Каб ты ведаў, як сойдземся з ім, дык ён усё просіць, каб запеяць... голас мой упадабаў. Асабліва гэтую песьню:

Сядзіць жаба на карчы
І кажа вароне:
— Кланяйся мне да начы
Я сяджу на троне. (вые сабака)

Гаспадар. Добра, галасок нішто. Але што гэта стрэліла сабачаму розуму, аж завыў воўчы клык!

Маладзіца. Ат глупства, ён заўсёды вые як я пяю. О, мне толькі трэба маргануць вокам як мужчыны за мной шнурам. Што-ж няпраўда?

Гаспадар. Магчыма. Любоўнікаў не абы хто будзе мець. Ну а што ён яшчэ ўпадабаў?

Маладзіца. Ласун, ты хочаш, каб я табе так усё і сказала, ого! Ня будзь вельмі цікавы— хутка пастарэеш.

Гаспадар. Ен, пэўна сьвістун, тваіх вас лясоў не пахваліў, а кудзеркі маеш надзіва.

Маладзіца. Хто ён?

Гаспадар. Той жа, Цырубулка. А што ў цябе іх шмат, што ты пытаеш хто?

Маладзіца. Цхі-і... хоць адбаўляй. Вун і Гаўрыла Таўкач ужо клюець.

Гаспадар. Клюець?! (абнімае жонку) А мая-ж ты, сіваваронка, а мая-ж ты, перапечка а мая-ж ты крупаварніца, вось усьцешыла мяне, а я думаў што адзін дурань на сьвеце гэта я. (у дзьверах паказываецца Г. Цырубулка—кульгавы, прыдуркаваты, з палкай). Хадзі, хадзі, брат, закурым, ня бойся.



## Зьява V.

Цырубулка. Ды некага мне баяцца, Тося-бося. Я прышоў пазычыць хамут у кума.

Гаспадар. Хахаха... ведаю які хамут. Ня прыкідайся нязнайкаю. А шуры-муры з маей жонкай хто заводзіў? Га? Ха-ха-ха...

Цырубулка (ўбок). Во, тося-бося, ўскочыў у мех—толькі завязаць.

Гаспадар. Ох, люблю я цябе „тося-бося". (абнімае Цырубулку). Цяпер на сьвеце ўжо ёсь два дурні, а ўдвух сумаваць ня будзем.

Маладзіца (абнімае Цырубулку). А мой ты, галубок, добра што прышоў, бо мой не хацеў усё верыць..

Гаспадар (адцягівае жонку). Ты, гэтага, вельмі не падлабунівайся, ня прыліпай...

Маладзіца. Што, ты мне забароніш? Агледзіўся цяпер? А чапялы ці пробоваў ты калі? Га? Кшты з хаты, каб твайго і духу ня было! (выганяе).

Гаспадар. (праз дзьверы выткнуўшы галаву) Конскі партрэт! (Іржэць) І-гага-га! Конскі партрэт!

Маладзіца. (кідаецца на Гаспадара, ён хаваецца) Ты мне пагаворыш.

## Зьява VI

Цырубулка. Ах ты, тося-бося, бульбаед. Заганю я цябе ў казіны рог! Аблаю на дваццаць гадоў. (Затыльгіцкаў)

Маладзіца. Ня турбуўся цапаненькі— я ўжо зашчапіла дзьверы, ня ўлезець цяпер. Ну, пацалуй-жа мяне.

Цырубулка. Чакай, хай апусьцяць заслону, а то будуць сьмяяцца...(Заслона закрываецца).

Гаспадар. (ад публікі лезіць на авансцэну)

Стой, стой! Не закрывай
Я зараз... крыху пачакай—
Адтуль няхочуць прапускаць...
А жонку мушу пакараць,
Каб іншых здрадніц напужаць
Ды каб маральнасьць пьесе даць.
О, не пусьцілі!.. Як відаць
Трэ ўжо праўдзе паміраць,
І час жанідзьбы праклінаць!..
Астаўлю вас тут хахатаць,
А сам я змушан уцекаць.

Канец.




